

№ 42 (479) 25 КАСТРЫЧНІКА 2000 г. НАША СЛОВА

# СУФІКСАЦЫЯ ЯК СПОСАБ УТВАРЭННЯ ПРЫМЕТНІКАЎ У АНАТАМІЧНАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ

Даклад на навукова-практычнай канферэнцыі "Закон аб мовах -- вынікі і перспектывы" 26 лютага 2000 года

У сувязі з набыццём беларускай мовай статусу дзяржаўнай паўстала пытанне пра выданне тэрміналагічных слоўнікаў, даведнікаў і падручнікаў пра выкарыстанне беларускай мовы ў навучальным працэсе і практыцы.

Аўтары спецыяльных слоўнікаў апошніх гадоў выдання шукаюць найбольш прыдатныя для беларускай мовы спосабы і сродкі перадачы тых ці іншых тэрмінаў, імкнуцца да скарыстання сваямоўных дэрыватаў. Не засталася ўбаку і анатамічная тэрміналогія

Аб'ектам нашага аналізу з'яўляюцца тэрміны-прыметнікі, утвораныя суфіксальным спосабам, сярод якіх мы вылучаем наступныя словаўтваральныя тыпы:

1. Адназоўнікавыя тэрміны, утвораныя з дапамогай суфікса *-ов (-ав-, -ев-, -яв-)* з значэннем *'які адносіцца да таго або ўласцівы таму, што названа ўтваральным словам'*: **рагавы, семявы, скроневы, хвастовы.**

2. Адсубстантыўныя тэрміны з суфіксам *-ават- (-яват)* з значэннямі: *'які валодае тым, што названа ўтваральным словам'*: **васцяваты, вузлаваты;** *'які мае ўласцівасці таго, што названа ўтваральным словам'*: **губкаваты, зернаваты**.

3. Адсубстантыўныя тэрміны з ускладаннем суфікса *-альн- (-яльн-)* з значэннем *'які адносіцца да таго, што названа ўтваральным словам'*: **артэрыяльны, урэтральны.**

4. Аддзеяслоўныя тэрміны з суфіксам *-льн-* маюць значэнне *'які прызначаецца для выканання дзеяння, названага ўтваральным словам'*: **абмежавальны, дыхальны, злучальны.**

5. Адназоўнікавыя тэрміны з суфіксам *-н-* маюць значэнні: *'які адносіцца да таго, што названа ўтваральным словам'*: **галаўны, судзінны;** *'які мае якасць таго, што названа ўтваральным словам'*: **авальны, кружны**.

6. Аддзеяслоўныя тэрміны з суфіксамі *-н-, -ан- (-ен-)* з значэннямі: *'здольны ўтварыць пэўнае дзеянне'*: **адводны, сыходны;** *'з'яўляецца вынікам пэўнага дзеяння'*: **аблямаваны, ірваны, напоўнены**.

7. Аддзеяслоўныя тэрміны з суфіксам *-л-* з значэннем *'які знаходзіцца ў стане, што выкліканы працэсам, названым ўтваральным словам'*: **абвіслы, вялы.**

8. Аддзеяслоўныя тэрміны з суфіксам *-т-* маюць значэнне *'заключае вынік дзеяння, названага ўтваральным словам'*: **сагнуты, выгнуты.**

9. Адсубстантыўныя тэрміны з ускладненым суфіксам *-арн- (-ярн-)* утвараюцца ад пазычаных асноў і маюць значэнне *'які адносіцца да таго, што названа ўтваральным словам'*: **ампулярны, венулярны, эпіфізарны.**

10. Адсубстантыўныя тэрміны з ускладненым суфіксам *-озн-* утвараюцца ад пазычаных асноў і маюць тое ж значэнне, што і тэрміны папярэдняга словаўтваральнага тыпу: **вянозны, кавернозны, пульпозны.**

11. Адназоўнікавыя тэрміны з суфіксам *-іст- (-ыст)* з значэннем *'валодае ўласцівасцямі таго, мае ці змяшчае тое, што абазначана ўтваральным словам'*: **валакністы, звілісты, пячорысты, слізісты, крацісты.**

12. Адпрыметнікавыя тэрміны з суфіксам *-іст-* утвараюцца ад адсубстантыўных прыметнікаў і абазначаюць падабенства да таго, што названа ўтваральным словам: **вадзяністы, студзяністы.**

13. Адназоўнікавыя тэрміны з ускладненымі суфіксамі *-ічн- (-ычн-), -атычн-* утвараюцца ад пазычаных асноў і маюць значэнне *'адносіцца да таго, мае тое або якасць таго, што названа ўтваральным словам'*: **анатамічны, гіпаталамічны, эліптычны, сферычны, хірургічны.**

14. Адназоўнікавыя тэрміны з суфіксам *-чат- (-част-)* з значэннем *'падобны на тое, што абазначаецца ўтваральным словам'*: **зубчасты, каленчаты.**

Такім чынам, тэрміны-прыметнікі ўтвараюцца пераважна ад асноў назоўнікаў, радзей дзеясловаў і зрэдку прыметнікаў. Большасць суфіксальных прыметнікаў у анатамічнай тэрмінасістэме абазначае "пункты" цела чалавека па іх размяшчэнні адносна плоскасцяў, частак цела, унутраных органаў. Аддзеяслоўныя прыметнікі, якія характарызуюць органы цела чалавека па іх прызначэнні, утвараюцца з дапамогай суфіксаў *-альн-, -льн-, -н-*. Тэрміны, якія абазначаюць становішча органа як вынік пэўнага дзеяння, утвараюцца з дапамогай суфіксаў *-т-, -л-, -ан- (-ен-)* ад дзеяслоўных асноў. Ужыванне такіх утварэнняў у анатамічнай тэрміналогіі пацвярджае высновы даследчыкаў аб выкарыстанні аддзеяслоўных прыметнікаў з суфіксам *-льн-, -н-* як арганічна ўласціва беларускай мове. Найменні з суфіксамі *-ават- (-яват-), -іст- (-ыст-)* характарызуюць органы па наяўнасці ўласцівасці або якасці, названай утваральным словам.

Адзначым, што частка прааналізаваных намі тэрмінаў-прыметнікаў мае неўласцівыя жывой беларускай мове суфіксы, якія парушаюць натуральную словатворчую структуру і мілагучнасць найменняў. Да такой групы тэрмінаў мы адносім адсубстантыўныя прыметнікі з суфіксам *-озн-, -альн-, -тыўн-, -арн-*. Пералічаныя суфіксы ўтварыліся ў выніку выдзялення з асновы лацінскага паходжання канцавых элементаў *-al-, -ar-, -os-, -iv-,* і далучэння да іх славянскага суфікса *-н-*. Ступень прадукцыйнасці прыметнікаў з азначанымі суфіксамі абмежавана, на думку даследчыкаў, лексічным значэннем асноў, што выступаюць утваральнай базай, і звязана, верагодна, з паходжаннем гэтых фармантаў. У той жа час пазычаныя словы і вытворныя ад іх павінны афармляцца паводле арфаэпічных і граматычных нормаў мовы-рэцэптара. Таму натуральна будзе ўжыць дэрываты з суфіксамі *-ав-, -н-* на месцы ўтварэнняў з фармантамі *-озн- (ы), -арн- (ы), -тыўн- (ы), -альн- (ы)*: **венавы, кавернавы, мембранавы, пульпавы, эмбрыёнавы, артэрыявы, венулавы, ампульны, асацыяцыйны** і г.д.

Ужыванне сваямоўных дэрывацыйных сродкаў спрыяе фармаванню анатамічнай і медыцынскай тэрміналогіі на нацыянальнай аснове, выразнаму выяўленню семантыкі слова і захаванню мілагучнасці найменняў.

*А.Палуян (Гомель).*

***Ад рэдакцыі.** На гэтым мы закончылі друкаваць даклады канферэнцыі 26 лютага. З наступнага нумара мы пачынаем друкаваць матэрыялы канферэнцыі 14. 10. 2000 г. "Беларуская тапаніміка. Гісторыя і сучаснасць".*

# Да ўвагі сяброў ТБМ!

Паважаныя сябры! Ідзе выдача новых Пасведчанняў сяброў ТБМ! Кожны, хто хоча яго атрымаць дасылае на адрас сядзібы ТБМ у Менску 900 рублёў (кошт пасведчання, ламінаванне і перасылка), свой фотаздымак памерам 2,5х3,5 см і наступныя звесткі пра сябе: дакладны адрас з паштовым індэксам, год нараджэння, месца працы альбо вучобы, прозвіша, імя і імя па бацьку, год і месца ўступлення ў ТБМ, да якой суполкі ТБМ належыце сёння. Можна атрымаць іншы варыянт пасведчання, без фотаздымка (тады яго кошт 700 руб.)

***Сакратарыят.***

# Вынікі збору подпісаў за Беларускі Нацыянальны Універсітэт

## паводле стану на 11 кастрычніка 2000 г.

На 11 кастрычніка 2000 года сабрана **33254** подпісы грамадзян з патрабаваннем адкрыць БНУ.

| | |
|---|---|
| **1.Берасцейская вобл.** | **851** |
| у тым ліку Берасце | 85 |
| **2.Віцебская вобл.** | **3246** |
| у тым ліку Віцебск | 1015 |
| **3.Гомельская вобл.** | **1434** |
| у тым ліку Гомель | 527 |
| **4.Гарадзенская вобл.** | **13332** |
| у тым ліку Горадня | 2133 |
| Ліда | 9216 |
| **5.Магілёўская вобл.** | **1678** |
| у тым ліку Магілёў | 289 |
| **6.Менская вобл.** | **9928** |
| у тым ліку Менск | 5847 |
| у тым ліку Малады фронт у Менску | 1206 |
| **7.З розных мясцін Беларусі і краін замежжа** | **2785** |
| **Усяго** | **33254** |

**Статыстыка збору подпісаў за стварэнне беларускага нацыянальнага універсітэта па рэгіёнах**

| | |
|---|---|
| 1. Асіповічы | 835 |
| 2. Ашмянскі раён | 2 |
| 3. Астравецкі раён | 9 |
| 4. Барысаў | 129 |
| 5. Баранавічы | 136 |
| 6. Бабруйск і раён | 291 |
| 7. Браслаў і раён | 7 |
| 8. Берасце | 85 |
| 9. Бельск-Падляскі (Польшча) | 1 |
| 10. Бяроза | 74 |
| 11. Бярэзінскі раён | 30 |
| 12. Быхаў | 20 |
| 13. Бярозаўка | 90 |
| 14. Б. Дружбы | 21 |
| 15. Брагінскі раён | 22 |
| 16. Ваўкавыск | 2 |
| Воўпа, вёска В. р-на | 23 |
| 17. Валожынскі раён | 2 |
| 18. Віцебск | 1015 |
| 19. Ворша | 247 |
| 20. Воранаўскі раён | 12 |
| 21. Вілейка | 234 |
| 22. Верхнедзвінск | 89 |
| 23. Вунь, вёска | 14 |
| 24. Вільня | 23 |
| 25. Горкі, вёска | 290 |
| 26. Гомель | 527 |
| 27. Глуск | 1 |
| 28. Глыбокае | 530 |
| 29. Ганцавічы | 7 |
| 30. Горадня | 2133 |
| 31. Гарадзенскі раён | 20 |
| 32. Дзяржынск | 127 |
| 33. Дзятлава | 3 |
| 34. Драгічын | 1 |
| 35. Докшыцы | 1 |
| 36. Жодзіна | 18 |
| 37. Жыткавічы | 131 |
| 38. Жытомірская вобласць (Украіна) | 1 |
| 39. Жлобін | 40 |
| 40. З Ш А | 3 |
| 41. Іўеўскі раён | 3 |
| 42. Івацэвіцкі раён | 2 |
| 43. Іванаўскі раён | 28 |
| 44. Кіеў і Украіна | 9 |
| 45. Калінкавічы | 1 |
| 46. Клецк і раён | 70 |
| 47. Клімавічы | 20 |
| 48. Карэліцкі раён | 24 |
| 49. Коханава | 31 |
| 50. Кобрын | 20 |
| 51 Лагойск і раён | 20 |
| 52. Лепель | 1 |
| 53. Люсіна, вёска | 9 |
| 54. Ліпнішкі, вёска | 43 |
| 55. Ліда | 9216 |
| 56. Лоеў | 50 |
| 57. Ляды, вёска | 20 |
| 58. Любаньскі раён | 1 |
| 59. Лапацічы, вёска | 13 |
| 60. Малады фронт | 1206 |
| 61. Масква | 3 |
| 62. Міёры | 37 |
| 63. Мар'іна Горка | 82 |
| 64. Мазыр | 336 |
| 65. Магілёў | 289 |
| 66. Маладзечанскі раён | 584 |
| 67. Менск | 5847 |
| 68. Наваполацк | 57 |
| 69. Навагрудак і раён | 132 |
| 70. Нясвіжскі раён | 23 |
| 71. Н. Царушкі, вёска | 10 |
| 72. Парэчча, вёска | 21 |
| 73. Полацк | 199 |
| 74. Пружаны і раён | 189 |
| 75. Паставы | 97 |
| 76. Петрыкаў | 21 |
| 77. Пінск | 207 |
| 78. Пухавіцкі раён | 1 |
| 79. Расвет, вёска | 40 |
| 80. Радуцічы | 19 |
| 81. Салігорск | 130 |
| 82. Санкт-Пецярбург | 114 |
| 83. Смаргонь і раён | 25 |
| 84. Светлагорск і раён | 76 |
| 85. Слаўгарад | 71 |
| 86. Слуцк і раён | 113 |
| 87. Стаўбцоўскі раён | 260 |
| 88. Старобін | 1 |
| 89. Столін | 46 |
| 90. Смалявічы | 24 |
| 91. Смілавічы | 2 |
| 92. Скідзель | 12 |
| 93. Старадарожскі раён | 1 |
| 94. Слонім | 32 |
| 95. Талачын | 79 |
| 96. Узда | 190 |
| 97. Хоцімск | 12 |
| 98. Хільчыцы, вёска | 169 |
| 99. Чэрвень | 105 |
| 100. Эстонія | 1 |
| **101. Зборныя аркушы** | **1511** |
| **Усяго** | **33254** |

Шаноўнае спадарства! Мы загадзя просім прабачэння, калі па нейкім раёне ці горадзе нешта не ўлічана. Збор подпісаў за БНУ працягваецца. Лісты ідуць кожны дзень. **Мы ў** бліжэйшы час ізноў надрукуем падпісны бланк і просім актыўна падключацца да гэтай справы усіх сяброў ТБМ і чытачоў "Нашага слова". Толькі разам мы пераможам!

***Старшыня ТМБ імя Францішка Скарыны Алег Трусаў.***

# Не забывайма людзей, якія любілі і праслаўлялі Беларусь

У "Нашым слове" № 39 ад 4 кастрычніка надрукаваны юбілейныя даты вядомых дзеячоў Беларусі, якія па прадстаўленні Г. Запарыка прапанаваныя для адзначэння на паштовых марках Міністэрствам сувязі Рэспублікі Беларусь. Лічу, што гэта вельмі добра, але ці будзе гэта зроблена ўлічваючы адносіны дзяржаўных чыноўнікаў да выдатных людзей Беларусі.

Мяркую, што было б вельмі карысна, каб па месцы нараджэння, ці працы гэтых людзей была адзначана іхняя юбілейная дата культурна-масавым мерапрыемствам, што болей верагодна, па- першае, а падругое, многія жыхары мясцінаў, дзе нарадзіліся, вучыліся, ці працавалі гэтыя выдатныя людзі, ведаюць пра іх вельмі мала, а то і нічога.

У нататцы прадстаўлена шаснаццаць юбіляраў на 2001 год. Думаю, гэты спіс не поўны. Толькі на Гарадзеншчыне яго можна дапоўніць:

1. 9 студзеня 200 гадоў з дня нараджэння **Восіпа Кавалеўскага** (1801-1878). Нарадзіўся ў Вялікай Бераставіцы, Гісторык, адзін з заснавальнікаў манголазнаўства ў Расеі, акадэмік.

2. 15 чэрвеня 170 гадоў з дня нараджэння **Вінцэнта Каратынскага** (1831-1891). Нарадзіўся ў Карэліцкім раёне. Паэт, перакладчык, выбітны краязнавец.

3. 3 верасня 270 гадоў з дня нараджэння **Станіслава Богуш-Сестрацэвіча** (1731-1823). Нарадзіўся ў Свіслацкім раёне. Пісьменнік, буйны палітычны і царкоўны дзеяч, вучоны-славіст.

4. 17 верасня 110 гадоў з дня нараджэння **Антона Баліцкага** (1891-1937) нарадзіўся ў Гарадзенскім павеце. Адзін з творцаў і праваднікоў дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі.

5. 8 лістапада 60 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Гурына** (1941-1991). Нарадзіўся ў Карэліцкім раёне. Археолаг, гісторык.

6. 9 снежня 110 гадоў з дня нараджэння **Максіма Багдановіча** (1891-1917). Дзіцячыя гады правёў у Горадні. Класік беларускай і сусветнай літаратуры.

7. 24 верасня 360 гадоў з дня нараджэння **Станіслава Незабітоскага** (1641). Нарадзіўся на Наваградчыне. Мемуарыст, дзяржаўны дзеяч.

8. 6 чэрвеня 240 гадоў з дня нараджэння **Станіслава Юндзіла** (1716) нарадзіўся ў Воранаўскім раёне. Вядомы даследчык прыроды.

9. 26 лістапада 110 гадоў з дня нараджэння **Янкі Станкевіча** (1891). Нарадзіўся ў Смаргонскім раёне. Перакладчык біблії, рэдактар часопіса "Родная мова", філосаф, палітычны дзеяч.

Мяркую, што не дрэнна было б адзначаць не толькі юбілейныя даты з дня нараджэння, але ж і адзначаць даты смерці выдатных людзей.

1. 8 кастрычніка 10 гадоў з дня смерці **Зоські Верас** (1892-1991). Вучылася ў Горадні. Легендарная пісьменніца, з якой звязана цэлая эпоха беларускага адраджэння.

2. 21 снежня 20 гадоў з дня смерці **Міхася Забэйды-Суміцкага** (1900-1981). Нарадзіўся ў Свіслацкім раёне. (паводле іншых звестак у Ваўкавыскім). Сусветны спявак, спяваў на 18 мовах свету.

***Раман Рамашка.***



**НАЦЫЯНАЛЬНЫ НАВУКОВА-АСВЕТНІЦКІ ЦЭНТР ІМЯ Ф.СКАРЫНЫ**
ПРЫ МІНІСТЭРСТВЕ АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Рэспубліка Беларусь, 220050, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, дом 15, 2-гі паверх
Тэлефон: (017) 220 51 57, 220 76 04 Тэлефон/факс: (017) 220 93 50
E-mail: mad@lingvo.minsk.by

Шаноўнае спадарства.

Скарынаўскі цэнтр распачынае працу над даведнікам "Беларускія краязнаўцы", у якім плануецца змясціць артыкул і пра Вас. У сувязі з гэтым просім запоўніць і даслаць нам анкету, фотаздымак. Будзем таксама ўдзячны Вам за адрасы іншых краязнаўцаў, артыкулы пра якіх было б мэтазгодным уключыць у даведнік.

Намеснік дырэктара В. У. Скалабан.

*Ад рэдакцыі.*

*Шаноўныя чытачы! Паколькі сярод вас шмат краязнаўцаў, мы спецыяльна для Вас друкуем анкету, што ляжа ў аснову даведніка "Беларускія краязнаўцы".*

*Таму просім усіх, хто пажадае, запоўніць гэтую анкету і даслаць у Скарынаўскі цэнтр па адрасу: 220050 г. Мінск вул. Рэвалюцыйная д. 15 2-гі паверх, сп. Скалабану В. У.*

## АНКЕТА

1. Прозвішча, імя, імя па бацьку____
2. Час (год, месяц, дзень) і месца нараджэння (па тагачаснаму і сённяшняму адміністрацыйна-тэрытарыяльнаму дзяленню)____
3. Ганаровыя і навуковыя званні і ступені, узнагароды, прэміі (пазначыць гады прысваення, атрымання)____
4. Адукацыя (указаць поўную назву навучальнай установы і год заканчэння)____
5. Працоўная дзейнасць (указаць месца працы, пасады, пазначыць гады)____
6. Калі і дзе распачалі краязнаўчую дзейнасць____
7. Каго лічыце сваімі настаўнікамі ў краязнаўстве____
8. Асноўныя кірункі і канкрэтныя тэмы краязнаўчых росшукаў____
9. Удзел у стварэнні музеяў, выстаў, калекцый____
10. Удзел у краязнаўчых і навуковых канферэнцыях, экспедыцыях____
11. З якімі ўстановамі і грамадскімі арганізацыямі падтрымліваеце кантакты____
12. Вашы краязнаўчыя друкаваныя працы (пазначыць псеўданімы), можна асобным спісам, пажадана дакладнае бібліяграфічнае апісанне
а) кнігі____
б) артыкулы ў зборніках і часопісах, бюлетэнях і інш.____
в) артыкулы ў газетах, у т.л. у мясцовых і малатыражных____
13. Рэцэнзіі на Вашы публікацыі і іншая літаратура пра Вашу краязнаўчую дзейнасць____
14. Недрукаваныя працы (назва, памер у старонках, дзе знаходзіцца)____
15. У якія бібліятэкі, архівы, музеі перадавалі свае рукапісы і калекцыі____
16. Адрас хатні, тэлефон____
17. Адрас службовы, тэлефон____
18. Іншыя звесткі, якія Вы лічыце неабходнымі паведаміць____

____ (дата) ____ (подпіс)

*Заўвага.*
*Адказы можна выкласці ў форме аўтабіяграфіі.*

# Давайце смяяцца па-беларуску

### ЯГО ВЯЛІКАСЦЬ – МАГАРЫЧ

Пасля вясны заўсёды лета,
І не было наадварот.
Спрадвеку паслядоўнасць гэта
Рабіла свой кругазварот.

І чалавек прыстасаваўся
Да гэтай змены і заўжды
Патроху з лета рыхтаваўся
Да надыходзячай зімы.

А гэта значыць – трэба дровы
Да халадоў нарыхтаваць,
Каб з чым было ў мароз зімовы
Калядаў свята сустракаць.

Адны, у кішэнь паклаўшы грошы,
У "гартоп", спяшаючыся, йдуць
І спадзяюцца, што харошы
Брыкет ці дровы прывязуць.

Другія крочаць іншым шляхам,
Да міласціўца лесніка.
І там у прыцемках, пад дахам,
Ён сустракае мужыка.

А з ім тры пляшкі "самапалу",
Або казёнкі, як калі,
На фунты два кавалак сала,
Хлеб і салёныя гуркі.

І справа ў лад ідзе памалу.
Як добра, што магарычы
Прыдумаў нехта так удала,
Без іх не чуць бы нам: "Сячы!".

"Гартоп" клапоціцца, працуе.
Шчыруе і ляснік Кузьміч.
А нам надзейнасць гарантуе
Яго Вялікасць – магарыч.

### ТРЭБА БАРАНІЦЬ!
(маналог аматара "зялёнага змея")

Вось кажуць: трэба меней піць,
Бо гэтым ганьбім мы Дзяржаву...
А што яна мецьме рабіць,
Калі пяройдзем мы на каву?

Адкуль тады ёй грошы ўзяць,
Калі не стануць разам людзі
Тавар гарэлачны купляць,
Ды што, скажыце, з намі будзе?

Таму патрэбна бараніць
Тых, хто казне дапамагае,
Хто чэсна п'е і будзе піць
Ўсё, што Дзяржава вытварае.

Два літры спірту ў месяц мне,
Як ёй не цяжка, – вырабляе.
У зімку добра – па вясне,
Як ні мудруй, а не хапае!

Бо летні дзень больш удвая
За караценькі дзень зімовы.
Вясной заўжды хварэю я,
На летнія сышоўшы ўмовы.

Таму пытанне паўстае:
Піць кожны дзень, ці не, і колькі?
На кожны дзень не выстае,
А свят з дзіцячы кукіш толькі.

Урад са мной у згодзе жыць
Павінен, ён пра гэта знае.
Таму мой заклік: "Будзем піць!"
Абавязкова падтрымае.

А, калі не, – пайду ў пікет
Да тых, каму патрэбна мова.
(Во дзівакі, нібыта свет
Без беларускага сканае слова!)

Лічу, што мова не цяля,
Яна ні піць, ні есць не просіць.
З ёй разбярэмся апасля,
Калі пітва ўсім будзе досыць...

*З "аматарам" сустэўся і ягоны маналог занатаваў у Слаўгарадзе (былы Прапойск) Фелікс Шкірманкоў.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 23. 10. 2000 г.
Наклад 1100 асобнікаў. Замова № 2551
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 171 руб., 3 мес.- 513 руб.
*Кошт у розніцу:* 45 руб.